*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

**№ 7 ліпень 2012 г.**

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

**Ствaралі нам усе умовы,**
**Каб адвучыць ад роднай мовы…** *Сяргей Грахоўскі*

## *У НУМАРЫ:*






# НАШЫ НАВІНЫ

31 траўня на сесіі Палаты прадстаўнікоў адно з дзесяці пытанняў, вынесеных на галасаванне, абмяркоўвалася па-беларуску. З дакладам на беларускай мове выступіў першы намеснік старшыні Мытнага камітэта Сяргей Радненка.

***

28 траўня ў памяшканні Нацыянальнага гістарычнага музея ў Мінску адбыўся краязнаўчы фестываль, які ў межах вялікага праекта "Захаванне культурнай спадчыны праз удзел у краязнаўчай дзейнасці" падрыхтавала і правяло Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

***

31 траўня на сядзібе ТБМ у Мінску адбылася прэзентацыя канспекта па вывучэнні Правілаў дарожнага руху на беларускай мове.

***

У газеце ТБМ "Наша слова" ад 6 чэрвеня надрукаваны цікавы артыкул-даследаванне вядомага мастака Алеся Цыркунова "Укрыжаваны шлях Міхала Грачаніка", у якім аўтар распавядае пра жыццё і грамадскую дзейнасць самадзейнага мастака-разьбяра з вёскі Швакшты. Работы Міхала Грачаніка ў выглядзе настольных крыжоў, скульптурных выяў, укрыжаванняў і зараз яшчэ знаходзяцца ў вёсках вакол Кабыльніка (Нарачы), у тым ліку і на Пастаўшчыне.

***

7 чэрвеня ў будынку Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі адбылася ўрачыстая імпрэза, падчас якой музею гісторыі горада Магілёва было перададзена арыгінальнае выданне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Да нашых дзён у свеце захавалася ўсяго некалькі дзесяткаў экзэмпляраў Статута, аднак у Беларусі не было ні аднаго з іх. Фаліянт набыты на электронным аўкцыёне за 45 000 даляраў, пераважна на ахвяраванні прадпрымальнікаў.

***

З № 24 ад 13 чэрвеня газета "Наша слова" пачала друкаваць грунтоўны артыкул Леаніда Лаўрэша "Вайна 1812 г. у Літве і на Лідчыне", у якім дэталёва разглядаюцца падзеі, звязаныя з нашэсцем армій Напалеона на Расію і беларускія землі.

***

Для ўдзелу ў ЦТ па беларускай мове зарэгістравалася 45199 абітурыентаў.

***

Да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка ТБМ імя Ф. Скарыны выдала камплект паштовак, дызайн якіх распрацаваў беларускі мастак Ігар Марачкін.

***

Сябрамі Пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ разам з дзіцячай раённай бібліятэкай і тэлекампаніяй "Паставы-ТБ" падрыхтаваны сцэнар перадачы пра Янку Купалу і яго духоўнага настаўніка, ураджэнца Пастаўшчыны Зыгмунта Чаховіча. Пачаліся здымкі відэафільма.

***

Лаўрэатамі прэміі імя Васіля Быкава "За свабоду думкі" сёлета сталі краязнаўца, стваральнік музея ў вёсцы Гудзевічы, што на Гарадзеншчыне, настаўнік беларускай мовы Алесь Белакоз і музыка, лідэр гурта "Крамбамбуля" Лявон Вольскі".

# VII кангрэс Асамблеі беларускіх няўрадавых дэмакратычных арганізацый

16-17 чэрвеня ў Мінску прайшоў VII кангрэс Асамблеі беларускіх няўрадавых дэмакратычных арганізацый. Удзел у форуме прымала больш за 200 дэлегатаў, абраных ад сямі рэгіёнаў краіны.



*Старшыня Асамблеі НДА*
*Сяргей Мацкевіч*




*Стэнд Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны*




На парадку дня кангрэса былі: справаздача аб стане грамадзянскай супольнасці ў краіне, развіцці рэгіянальных ініцыятываў, прэзентацыя прэміі "Чэмпіёны грамадзянскай супольнасці", а таксама восем тэматычных круглых сталоў. Сябрамі Асамблеі на дадзены момант з'яўляюцца 302 беларускія няўрадавыя арганізацыі, большасць з якіх і накіравалі сваіх прадстаўнікоў на форум. У працы кангрэсу бралі ўдзел і сябры пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ, якія прэзентавалі сваю дзейнасць праз інфармацыйны стэнд і апошнія нумары бюлетэня "Шыпшына".



*Удзельнікі кангрэса*
*ад Пастаўскай арганізацыі ТБМ*
*І. Пракаповіч і Л. Сяменас*

# ПАСЯДЖЭННЕ ТАПАНІМІЧНАЙ КАМІСІІ ТБМ

17 чэрвеня ў памяшканні "АРТ-сядзібы" ў Мінску прайшло пасяджэнне тапанімічнай камісіі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, на якім разглядаліся прапановы партыі БХД аб перайменаванні вуліц у шэрагу гарадоў Беларусі ў гонар вядомых дзеячаў беларускай хрысціянскай дэмакратыі ксяндзоў Станкевіча і Гадлеўскага. Вёў пасджэнне Вінцук Вячорка. У якасці эксперта ў абмеркаванні пытання браў удзел пісьменнік і краязнаўца з Паставаў Ігар Пракаповіч.



# *"ПАДАРУ ТАБЕ Я КВЕТКУ ШЧАСЦЯ, МОЙ НАРОДЗЕ..."*

У Пастаўскай дзіцячай бібліятэцы імя У. Дубоўкі адбылася імпрэза, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы. Арганізатары імкнуліся паказаць Купалу як чалавека, думкі, жаданні і памкненні якога сучасныя і актуальныя ў сённяшнім грамадстве. І гэта сапраўды так, таму што вялікія паэты з'яўляюцца прарокамі ў сваёй Айчыне, а Купала - гэта паходня, за якой трэба ісці, зорка, да якой яшчэ трэба расці нам, сучаснікам.

Свята пачалі чатыры чараўніцы паводле п'есы У. Караткевіча "Калыска чатырох чараўніц". У нашым народзе здаўна вядома легенда аб тым, што ля калыскі кожнага нованароджанага збіраюцца чараўніцы і прарочаць яму лёс. Мудрыя чараўніцы стаялі пры калысцы Ясіка Луцэвіча і судзілі яму лёс. Яму наканавана было гадамі блукаць упоцемку і выйсці на святло, аслепнуць ад яго, але вывесці з цемры іншых. Яму суджана было памерці далёка ад роднай зямлі, хоць мёртвым вярнуцца ў яе, давеку заста475 заставацца з ёю, са сваім народам, стаць нацыянальным геніем і прарокам.

Ролі чараўніц выканалі: Дунец Кацярына, Сяменас Віялета, Дунец Марыя, Руднева Аляксандра. Потым быў паказаны фільм "Кветка шчасця Купалы", зняты Пастаўскім



*Чараўніцы*

тэлебачаннем сумесна з дзіцячай бібліятэкай імя У. Дубоўкі. Дарэчы, фільм можна будзе ўбачыць па Пастаўскім тэлебачанні. У фільме Янка Купала паказаны як шукальнік кветкі-шчасця для свайго народа. Усё сваё жыццё ён шукаў кветку і ўрэшце знайшоў яе і пакінуў яе нам, сваім нашчадкам. Мы зможам знайсці адказы амаль на ўсе пытанні ў творчай спадчыне вялікага паэта. Яго вуснамі гаварыла сама Беларусь, багатая духоўна, таленавітая, але прыніжаная, непрызнаная як нацыя.

Тамара Храпавіцкая, вядучая, расказала пра творчасць Купалы. Натхнёна і пранізліва чыталі вершы Іван Шчокат, Марыя Дунец, Віялета Сяменас, Вадзім Шышко, Міхал Дзюшко, Наталля і Глеб Карнілавы, Наталля і Валяр’ян Ожэлі.

З дапамогай вядомага краязнаўцы Ігара Пракаповіча мы даведаліся, што звязвае жыхароў Пастаўшчыны з Янкам Купалам. Ганна Бекіш і Валерыя Пронька выканалі песні на словы Янкі Купалы. Пастаўская зямля багатая талентамі і думаецца, што пра гэтых дзяўчат мы яшчэ даведаемся і будзем ганарыцца імі.

Пасля прагляду фільма Юліяна Янцэвіч і Ірына Дубовік, студэнткі Наваполацкага музычнага вучылішча, выканалі музычную кампазіцыю “Танга”, у якой Юліяна выступіла ў ролі кампазітара. Затым Юліяна Янцэвіч сыграла шэраг твораў у вянок Янку Купалу.

Слухачы былі ў захапленні і паспяшаліся выказаць сваю ўдзячнасць музыкам. На заканчэнне свята жадаючыя з дапамогай дзяўчат-чараўніц развучылі беларускі танец “Базар”. Свята ў гонар Янкі Купалы ўдалося.

“Купалле, Іван Купала, Янка Купала – гэта агонь. І агонь Янкі Купалы мусіць гарэць у кожным беларускім сэрцы, у кожнай чыстай беларускай душы! Вечна!



*Выступаюць Ю. Янцэвіч і І.Дубовік*

Каб беларусу заставацца беларусам.

Каб багацеў на зоркі беларускі космас.

Каб далячэў беларускі далягляд.

Каб меней падала знічак з беларускага неба.

Хай гучыць у кожным беларускім сэрцы паэзія Янкі Купалы – Біблія беларускага духу!” (Рыгор Барадулін).

*Людміла Сяменас*

# ШЧЫРЫ БЕЛАРУС
# АНТОН ФУРС



Калі бачыш гэтага чалавека, які шпарка ідзе па вуліцы, з чэхаўскай бародкай і добрымі вачыма, на галаве берэт пад Караткевіча, прыгадваеш: напэўна, гэта былы настаўнік. Насамрэч і так, і не. Ён вельмі хацеў стаць настаўнікам, вучыўся на яго, але лёс склаўся так, што не атрымалася.

Антон Фурс – так завуць нашага героя. Нарадзіўся 30 красавіка 1927 года ў мястэчку Язна, што за пятнаццаць кіламетраў ад старажытнага горада Дзісны. Хадзіў у Язьненскую школу. Вучылі ў ёй, як і ва ўсёй Заходняй Беларусі, па-польску. У сценах школы мусілі размаўляць толькі на польскай мове. А 17 верасня 1939 г. прыйшлі Саветы. Пры Саветах пачаў дзейнічаць закон аб усеагульным навучанні дзяцей. Насельніцтва вельмі ўхваляла клопат савецкай улады аб народнай адукацыі. Школы, лічылася, сталі беларускімі. Што значыць лічылася? Выкладанне большай часткай вялося па-расейску. Настаўнікаў не хапала, і прысылалі пераважна з Расеі. Прыезджыя мовы не ведалі і не хацелі ведаць. Пры Польшчы навязвалася ўсё польскае, цяпер інтэрнацыянальнае, значыць, расейскае.

Не прайшло і двух гадоў, як улада змянілася. На змену адным "освободителям" прыйшлі другія – фашысты. Восенню 41-га ў Язьне, як і ў іншых месцах, аднавіла работу школа. Дырэктарам стаў Ігнат Мятла – шчыры патрыёт, дзеяч Грамады ў Заходняй Беларусі, паплечнік Тарашкевіча. Выкладчыкамі прыйшлі такія ж гарачыя прыхільнікі беларускай справы, маладыя настаўнікі. У хуткім часе школа зрабілася сапраўдным асяродкам культурнага жыцця ў Язьне і ваколіцах. Вось так пры немцах за няпоўныя два гады вучні атрымалі моцны зарад патрыятызму, трывалую нацыянальную свядомасць. На жаль, зімой 43-га школа перастала існаваць. У мясцінах аб'явіліся партызаны, што перабіраліся з усходняй часткі Беларусі. Адной з першых іх баявых аперацый было суровае папярэджанне дырэктара Ігната Мятлы, каб школа спыніла сваю работу, а то будзе кепска яму і настаўнікам. А неўзабаве партызаны наогул спалілі школьны будынак.

У 44-м пасля вызвалення Беларусі ў Глыбокім адчынілася педагагічнае вучылішча. Антон Фурс паступае туды. З самага пачатку склалася ўражанне, што студэнтаў хочуць перарабіць на расейцаў. І ў многіх навучэнцаў вучылішча такая сітуацыя пачала выклікаць унутраны пратэст. Прычым падобная сітуацыя назіралася і ў Пастаўскім педагагічным вучылішчы. Паступова тыя студэнты, якім не падабалася тое, што адбываецца, пачалі аб'ядноўвацца. І ў Паставах, і ў Глыбокім амаль адначасова, але незалежна адна ад адной, узніклі падпольныя студэнцкія арганізацыі, галоўнай мэтай якіх было служэнне Беларусі на ніве асветы і пашырэння ўсяго беларускага. А калі пастаўскія і глыбоцкія студэнты даведаліся, што іх арганізацыі вельмі падобныя, то яны аб'ядналіся ў адну – Саюз Беларускіх Патрыётаў.

Як цяпер вядома, у Глыбоцкім аддзеле МГБ, як і ў Пастаўскім, пра СБП ведалі ў хуткім часе, як ён быў заснаваны. Але каб усіх арыштаваць, былі патрэбныя больш важкія падставы, чым проста жаданне маладых людзей размаўляць на беларускай мове. Як назло, гэтыя амаль дзеці не задумлялі нічога незаконнага, нават нягледзячы на стараньні засланых у іх шэрагі правакатараў. Таму арыштоўваць іх давялося без якой-нібудзь віны. Але прыдумаць яе ў тыя часы было вельмі лёгка.



*Антон Фурс з жонкай Алесяй*

Адбылося гэта ў лютым 1947-га года. Антона Фурса забралі прама з моладзевай вечарыны, якую яны наладзілі на сваёй хаце. Прывезлі ў Паставы, кінулі ў склеп плябаніі ля зачыненага касцёла. Там яго разам з іншымі ўдзельнікамі СБП некалькі дзён жорстка катавалі ў лепшых фашысцкіх традыцыях. І адтуль павезлі ў Мінск. Там зноў былі допыты і суд. Усім далі ад 3 да 25 год лагераў. Антону далі 15 год. Маладому хлопцу, які пачынаў сваё дарослае жыццё. Толькі за тое, што хацеў размаўляць на сваёй роднай мове.

Пасля былі лагеры. Спачатку іх размясцілі ў адным лагеры са звычайнымі крымінальнікамі. Гэта было цяжка, бо лагернае начальства заўсёды садзейнічала гэтым злачынцам, каб яны розным чынам прыніжалі так званых "палітычных", да якіх належаў і Антон Фурс. У 1950 годзе іх нарэшце вывезлі ў асобны лагер каля Караганды. Гэта палегчыла становішча, бо цяпер вакол былі нармальныя людзі, а не маральныя вырадкі. Але, з іншага боку, сама адміністрацыя лагера ўвяла занадта строгі рэжым, пры якім выжыць станавілася цяжэй. На шчасце, амаль увесь час на шляху Антона траплялiся добрыя людзі, з якімі было лягчэй пераносіць усе цяжкасці. Адным з якіх з'яўляўся выдатны пастаўчанін Віктар Стахоўскі. З цягам часу незадаволенасць зняволеных вылілася ў паўстанне. Сталін ужо памёр, таму кіраўніцтва лагера вырашыла задаволіць патрабаванне паўстаўшых – ставіцца да іх як да людзей. Праўда, кіраўнікоў паўстання забралі і дзе яны зніклі - невядома. Яшчэ праз год, у 1955 годзе, пачалі пераглядаць тэрміны зняволення. І неўзабаве Антон, ужо вольны чалавек, ехаў на цягніку дахаты.

Вярнуўшыся дадому, Антон застаўся ў сваёй вёсцы. І неяк незаўважна стаў завадатарам мастацкай самадзейнасці. Мясцовая моладзь ставілася да яго з павагай, бо ведалі пра яго лёс. Але з уладай адносіны не склаліся. Да яго стаў часта наведвацца ўчастковы міліцыянер з нейкімі невядомымі людзьмі. Стала зразумела, што за ім назіраюць. Таму Антон са сваёй жонкай Алесяй Умпіровіч, былой удзельніцай Пастаўскага СБП, вырашылі з'ехаць з Беларусі. Зноў у Караганду. Там яны і засталіся да пенсіі. І толькі потым вярнуліся на Беларусь. Якраз быў пачатак 90-х гадоў. Людзі зноў атрымалі магчымасць гаварыць пра сваю нацыянальную культуру. Удзельнікамі былога СБП зацікавіліся вядомыя людзі. Антону Фурсу параілі даць запыт аб рэабілітацыі, што ён і зрабіў. І ў лістападзе 1992 года Антон Фурс са сваёй жонкай нарэшце атрымалі паведамленне аб рэабілітацыі. Сведчанне таго, што клапаціцца аб сваёй культуры, нацыі, мове – гэта не злачынства, а святая справа.

*Паводле кнігі «Гарт» матэрыял падрыхтавалі Людміла Сяменас і Вадзім Шышко*

## ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ НАШАГА КРАЮ

# МАНЬКАВІЦКАЯ КАПЛІЦА

За ставам на рацэ Мядзелка, на высокім узгорку, знаходзіцца родавая капліца-пахавальня Друцкіх-Любецкіх. Была яна пабудавана ў стылі позняга класіцызму і ўтварала з сядзібай, што знаходзілася на супрацьлеглым беразе става, адзіны сядзібна-паркавы ансамбль.

Паводле некаторых звестак, узвялі яе ў другой палове XIX стагоддзя, калі Манькавічы перайшлі ва ўласнасць знакамітага роду Друцкіх-Любецкіх. Мястэчка на той час было багатае, шматлюднае, бо праз яго праходзіў старажытны шлях з Вільні на Полацк. Лічыцца, што адной з першых у капліцы была пахавана Элеанора Друцкая-Любецкая. Пліта з яе надмагілля доўгі час ляжала пры дарозе на Сарочына, але гадоў дзесяць таму невядома куды знікла. Па ўспамінах старажылаў, пасля смерці князя Уладзіміра Друцкага-Любецкага ягонае цела таксама спачатку знаходзілася тут, але пазней было перавезена ў капліцу каля возера Варанец, якую для ўшанавання князя пабудавала яго жонка-француженка.

Манькавіцкая капліца пабудавана з бутавага каменю, мае два паверхі: верхняя зала выкарыстоўвалася для малення і службы; пад ёй быў склеп з нішамі-пахаваннямі. Адно з пахаванняў у склепе датуецца 1870 годам. Памеры капліцы прыблізна 10 х 7 метраў

Раней каля капліцы штогод



*Манькавіцкая капліца, 1965 г.*

ладзілася свята "Божэ цяло", на якое з'язджаліся ксяндзы і каталікі з наваколля. На фэст збіралася шмат народу, ладзілася сцэна, працаваў гандаль. Але гэта ўсё ў мінулым. Зараз жа капліца знаходзіцца ў вельмі занядбаным стане: склеп з пахаваннямі разбураны, тынкоўка ў многіх месцах абвалілася, ледзь трымаецца дах.

У 90-х гадах была зроблена спроба адбудаваць капліцу, нават пастаўлены рыштаванні, але справа далей не пайшла. Так і стаіць зараз гэты невялічкі храм, як у клетцы, з усіх бакоў акружаны рыштаваннямі з пачарнелых і падгнілых дошак, чакаючы сваёй долі. А лес усё шчыльней бярэ капліцу ў палон…

*Ігар Пракаповіч*



**Шыпшына**

*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч

Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч

*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*

*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*

*Наклад 100 асобнікаў*